№ 20(143)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Лістапад 2012 г.

# ЗЛОТНІКАЎ: МАГЧЫМЫ КРАХ ПЕНСІЙНАЙ СІСТЭМЫ



***У сувязі з гэтым улады павялічаць узрост выхаду на пенсію, лічыць эканаміст.***

«Пенсійны ўзрост сапраўды трэба павышаць, у Беларусі ён адзін з самых нізкіх у свеце. Праўда, беларусы і жывуць менш за іншых. Але павышаць узрост выхаду на пенсію трэба не з прычыны павышэння якасці жыцця, як заявіў намеснік міністра працы Валерый Кавалькоў, а ў сувязі з тым, што можа наступіць крах пенсійнай сістэмы», - сказаў у інтэрв'ю сайту charter97.org вядомы беларускі эканаміст Леанід Злотнікаў.

Па словах эксперта, хутка пенсійных адлічэнняў рабочых не будзе хапаць на выплату пенсій. «У нас адбываецца працэс, калі лік работнікаў зніжаецца, а колькасць пенсіянераў расце. Так будзе працягвацца 20-30 гадоў. І пенсійных адлічэнняў рабочых не будзе хапаць на выплату пенсій».Ёсць тры спосабы не дапусціць краху пенсійнай сістэмы, адзначыў эканаміст. «Нешта трэба рабіць. Павялічваць працаздольны ўзрост. Альбо зніжаць пенсіі - а яны ў нас і так маленькія. Трэці варыянт - павялічваць адлічэнні ў пенсійны фонд. А гэтага рабіць таксама нельга, у нас адлічэнні ў яго вышэй, чым у Казахстане і Расеі. Гэтыя адлічэнні ўваходзяць у сабекошт прадукцыі. У тым ліку і дзякуючы гэтаму нашы тавары неканкурэнтназдольныя на рынку Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП)»

Застаецца толькі павысіць пенсійны ўзрост, лічыць Леанід Злотнікаў. «Так што правільным рашэннем будзе павышэнне ўзросту выхаду на пенсію».

Нагадаем, нядаўна ў інтэрв'ю дзяржаўным СМІ намеснік міністра працы Валерый Кавалькоў заявіў, што ў Беларусі трэба павышаць узрост выхаду на пенсію. Ён абгрунтаваў гэта тым, што ў нашай краіне вырасла якасць жыцця і яе працягласць.

## ЭКСПЭРТ: ІНФЛЯЦЫЯ ЎЗРАСЬЦЕ АДНАЗНАЧНА, ДЭВАЛЬВАЦЫЯ МАГЧЫМАЯ

***Прырост валавога ўнутранага прадукту ў Беларусі за 10 месяцаў бягучага году склаў толькі 2,2%.***

Пра гэта паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі.

Дасягнуты ўздым больш чым удвая саступае сацыяльна-эканамічнаму прагнозу росту ВУП на 2012 год. Урад спадзяваўся, што гэты паказьнік складзе 5–5,5%.

Што гэтыя лічбы азначаюць для звычайнага жыхара Беларусі? На гэтае пытаньне «Свабоды» эканаміст Леў Марголін адказвае так: «Калі валавы ўнутраны прадукт расьце на 2%, а заробкі — на 10%, то трэба чакаць інфляцыі. Яна будзе працягваць уздымацца. А неўзабаве можа быць таксама і дэвальвацыя беларускага рубля».

Інфляцыя за 10 месяцаў 2012 году склала 18%. У 2012 годзе ўрад плянуе ўтрымаць інфляцыю ў межах 20–22%.

Раней Міжнародны валютны фонд прагназаваў, што гадавая інфляцыя ў Беларусі ў 2012 годзе дасягне ўзроўню 60,2%. У 2013 годзе, паводле таго ж прагнозу МВФ, чакалася зьніжэньне гадавой інфляцыі да 30,6%

***Радыё "Свабода"***

## СПИД НЕ СПИТ

На 1 ноября 2012 года в Белыничском районе зарегистрировано 5 человек с ВИЧ-инфекцией. Трое ВИЧ - инфицированных относятся к возрастной категории 30-40 лет, один – к возрастной категории 20-30 лет, один - ребенок до 14 лет. Инфицирование вирусом иммунодефицита у четырех ВИЧ-инфицированных произошло половым путем. Один ребенок инфицировался во время беременности. Один ребенок рожден от ВИЧ-инфицированной матери и его статус в отношении ВИЧ-инфекции буден определен по достижении возраста 18 месяцев.




***По информации УЗ «Белыничский райЦГЭ»***

## Только факты

Средняя заработная плата по народному хозяйству Белыничского района в сентябре сложилась на уровне Br3125,8 тыс. По сравнению с аналогичными периодами 2011 года темп роста номинальной заработной платы составил 202,8%.

Напомним, что начисленая средняя заработная плата в Беларуси в первый месяц осени составила 4 096 741 рубль.

Отстаём, однако…

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## ШКЛОЎ: МЯСЦОВЫЯ ЖЫХАРЫ ІГНАРУЮЦЬ ГРАМАДСКУЮ ПРЫЁМНУЮ "БЕЛАЙ РУСІ"




За дзесяць месяцаў 2012 года ў грамадскую прыёмную Шклоўскай раённай арганізацыі РГА "Белая Русь" за дапамогай у вырашэнні разнастайных пытанняў звярнулася толькі сем чалавек. Пра гэта распавёў у інтэрв'ю карэспандэнту раённай газеты "Ударны фронт" (№ 87 ад 10 лістапада 2012 г) старшыня Шклоўскай раённай арганізацыі РГА "Белая Русь" Мікалай Яроміч.

Па словах Мікалая Яроміча, усе пытанні, па якіх звярнуліся грамадзяне, былі вырашаны станоўча. Лідар шклоўскіх членаў "Белай Русі" сказаў, што "сваю асноўную ролю мы бачым у актывізацыі інтарэсу грамадзян да палітычнага жыцця, у станаўленні грамадзянскай супольнасці, у якім гарантуюцца сацыяльная справядлівасць, дэмакратыя, правы чалавека. Галоўнай задачай мы лічым імкненне быць бліжэй да простых людзей на месцах".

Грамадская прыёмная Шклоўскай раённай арганізацыі РГА "Белая Русь" знаходзіцца ў кінатэатры "Мір" і працуе другі і трэці чацвер кожнага месяца з 15-00 да 18-00. Абсалютна незразумела, навошта марнаваць грошы на яе ўтрыманне, калі людзі туды практычна не звяртаюцца…

Грамадскі актывіст са Шклова Міхаіл Кучарэнка лічыць выказванні Мікалая Яроміча ўсяго толькі прыгожымі словамі.

"Усе ведаюць, як ствралася "Белая Русь" у Шклоўскім раёне, людзі ўступалі туды па загаду зверху, - кажа Міхаіл Кучарэнка. – І зараз арганізацыя стварае толькі нейкую імітацыю таго, што яна дзейнічае на карысць простых людзей, аднак шклаўчане выдатна разумеюць, што гэта арганізацыя ў першую чаргу аб'ядноўвае чыноўнікаў ад улады і абараняе іх інтарэсы. Таму людзі і практычна не звяртаюцца ў іх "грамадскую прыёмную". Сам Мікалай Яроміч не адзін год быў старшынёй Шклоўскага райсавета, зараз працуе ў райвыканкаме, што ж яму перашкаджае змагацца за правы чалавека і дэмакратыю? Дарэчы, ён раней неаднаразова ўзначальваў акруговую і раённыя выбарчыя камісіі на выбарах дэпутатаў розных узроўняў, тады ён чамусьці не ўзгадваў гэтыя прыгожыя словы. І не бачыў ніякіх парушэнняў пры правядзенні выбарчых кампаній, не рэагаваў на скаргі дэмакратычных актывістаў. Ніякай дэмакратыяй у Шклоўскім раёне нават і не пахне".

***Іван Барысаў***

## БЕРЕГИТЕСЬ ЖЕНЩИН

8 ноября Быховским районным отделом СК возбуждено УД по ст. 147 ч. 1 УК (Умышленное причинение тяжкого телесного повреждения) в отношении неработающей несудимой жительницы д. Давыдовичи Быховского р-на 1969 г.р., которая 11 октября около 20-00 по месту жительства, в ссоре после совместного распития спиртных напитков, обухом топора причинила тяжкие телесные повреждения односельчанину 1965 г.р. Мера пресечения не избиралась.

## АЛЕГ МЯЦЕЛІЦА ПРАЦУЕ Ў ЛІТВЕ

Шмат хто з знаёмых бялынічан пытаецца, дзе падзеўся і чым займаецца вядомы бялыніцкі актывіст дэмакратычнага руху Алег Мяцеліца. Вось як сам Алег днямі адказаў на гэта пытанне карэспандэнту "Еўрарадыё":

"Знаходзячыся тут і размаўляючы з палітыкамі, грамадскімі дзеячамі Літвы і іншых еўрапейскіх краін усё ж працей расказаць аб сітуацыі, якая адбываецца у Беларусі", — гаворыць Алег Мяцеліца, адзін з актыўных дзеячаў "Беларускага палітычнага прадстаўніцтва ў Літве".

Мяцеліца падчас мінулай прэзідэнцкай кампаніі працаваў у камандзе Някляева, а пасля сумнавядомых падзей 19 снежня разам з яшчэ некалькімі паплечнікамі асеў у Вільні. Расказвае, што на пачатку думаў працягваць займацца палітычнымі справамі, аднак на практыцы выйшла крыху інакш.

"Робім мерапрыемствы для людзей, якія цяпер дзейнічаюць у Беларусі. Дапамагаем структурам, арганізацыям. Культурныя мерапрыемствы рыхтуем у Вільні — знаёмім літоўцаў з нашай культурай, канцэрты арганізуем, выставы. Такая праца".

Да гэтай інфармацыі можам дадаць толькі тое, што Алег не проста працуе ў "Беларускім палітычным прадстаўніцтве ў Літве", але і з'яўляецца кіраўніком офіса гэтага прадстаўніцтва. Няглядзячы на значную пасаду, Алег Мяцеліца кажа, што ён усё роўна вернецца на радзіму, як толькі для гэтага будуць спрыяльныя ўмовы.

Што ж, будзем спадзявацца на хуткую сустрэчу…

***Ірына Беганкіна***

5 ноября Круглянским районным отделом СК возбуждено у/д по ст. 147 ч. 1 УК (Умышленное причинение тяжкого телесного повреждения) в отношении неработающей несудимой жительницы г.п. Круглое 1985 г.р., которая 24 октября около 13-00 по месту жительства ножом причинила колото-резаную рану мужу 1981 г.р. Мера пресечения не избиралась.

# А НЕ ПОРА ЛИ И ОТЧИТАТЬСЯ?



*Владимир Шанцев*

***Я всегда смотрю или слушаю белорусских пропагандистов и агитаторов. И мне раньше казалось, что здесь есть какая-то движуха. В смысле отточенности и изощренности этой самой пропаганды.***

Но в этот раз у них произошел сбой, причем очень досадный.

Я слушал встречу с представителями прессы из российской глубинки. Меня, как и многих других, наповал сразила цитата о том, что некто предложил взятку в 5 млрд. за покупку Беларуськалия за 10 млрд. На что последовал безусловный отказ с комментарием, что за подобное у нас одевают наручники.

Вечером, когда ехал в троллейбусе, уже слышал реакцию на этот пассаж. Привожу слова двух молодых людей. «В каком-то российском сериале что-то аналогичное уже было, и это не новинка, - рассказывали они. - Одному полицейскому предложили взятку, и тот отреагировал совершенно аналогично, мол, за попытку взятки сейчас дело уголовное заведу. В ответ услышал предложение, втрое превышающее предыдущее. Уголовное дело на этом и развалилось – просто для начала маловато предложили…»

Родственники мои из России. Часто бываю там. Как-то пришлось заниматься проблемой увековечения памяти моего деда, которого в центре города расстреляли за связь с партизанами. В одном кабинете разговорились. И мой собеседник, высокий местный начальник, узнав, что я из Беларуси, стал с упоением рассказывать о том, как они целой делегацией были в нашей стране в одном из районов, где им показали такое, что аж дух захватило. Слушал я этого начальника, которого восхитило все, что он увидел, что это оказалось гораздо лучше того, что есть у них, в России, что наша страна, Беларусь, рванула далеко-далеко вперед от России, а проклятая оппозиция не дает почему-то покоя толковым людям в нашей стране. И у меня, честно говоря, тоже дух захватило, и мне самому захотелось попасть в эту чудесную страну. ..

Но тут этот начальник зачем-то произнес фразу, которая все испортила. Оказывается, в этом районе Беларуси, где все процветает – и промышленность, и сельское хозяйство, – оказывается, чего-то все-таки там не хватает. Выяснилось – не хватает денег, бюджет этого района уж очень дотационным оказался, то есть, говоря простым языком, денег на свой бюджет в этом районе никак заработать не могут.

Я закрыл рот, отдышался и задаю встречный вопрос:

- А ваш район, часом, не дотационный тоже?

- Да, - отвечает тот, - и мы без дотаций не можем.

- Тогда, - спрашиваю, - что это за чудеса такие, если все чудесно – а денег нет, как у вас, где все плохо? Если все блестяще, как бюджет может быть дотационным?

-? - Опешил мой собеседник.

- Так что, - спрашиваю я, - там была водка вкусная и девки сладкие?

Расхохотался высокий начальник, и смех этот был уже совершенно искренний. Я понял это хотя бы по тому, что потом мы разговаривали совершенно по-другому. Как говорится, беседа прошла в дружеской, искренней обстановке, и я решил все свои вопросы.

С тех пор прошло какое-то время. Но почему-то продолжают возить сюда их пропагандистов и агитаторов, и не всегда там, в России, им дают отпор. Причем возят за наши, налогоплательщиков, деньги. Кормят, поят, опять же – на девок расходы… Не перебор ли это?

А не пора ли и отчитаться?

***Владимир Шанцев,***
***председатель Могилёвской областной организации ОГП***

## НАШ ЗЯМЛЯК СТАЎ ГАЛОЎНЫМ СПАРТСМЕНАМ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ




У кіраўніцтве спартовай галіны Магілёўшчыны адбыліся змены. З сярэдзіны кастрычніка на пасаду начальніка ўпраўлення фізічнай культуры, спорту і турызму Магілёўскага аблвыканкама прызначаны ўраджэнец Бялыніцкага раёна Аляксандр Славіевіч Гагіеў, які раней займаў пасаду намесніка начальніка.

Аляксандр Гагіеў нарадзіўся ў вёсцы Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна, у гэтай жа вёсцы да пераезду ў Магілёў ён вучыўся ў Машчаніцкай сярэдняй школе.

Змены ў спартыўным кіраўніцтве Магілёўшчыны адбыліся ў выніку няўдалага выступлення беларускіх спартсменаў на алімпіядзе ў Лондане, якое жорстка раскрытыкаваў кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка.

***Вікторыя Бялова***

# ЭКАНОМІКА БЕЛАРУСІ І ЯКАСЦЬ — СЛОВЫ НЕ СУМЯШЧАЛЬНЫЯ

Ужо больш за 20 гадоў па ініцыятыве Еўрапейскай арганізацыі якасці пры падтрымцы ААН у другі чацвер лістапада адзначаецца Сусветны дзень якасці. У 2012 годзе гэты дзень прыпаў на 8 лістапада.

З сярэдзіны 90-х у рамках Сусветнага дня якасці штогод праводзіцца Еўрапейскі тыдзень якасці. Сёлета гэты тыдзень прыйшоўся на 5-11 лістапада і праходзіў пад дэвізам “Ключавы фактар — якасць”.

Нягледзячы на важкасць пытання аб неабходнасці павышэння якасці прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў, як дзень, так і тыдзень якасці засталіся амаль не заўважнымі на ўсіх узроўнях беларускага грамадства.

Толькі Дзяржаўным камітэтам па стандартызацыі гэтаму дню былі прысвечаны некалькі інтэрв’ю і публікацый у СМІ.

“Беларусь імкнецца стаць адной з вядучых краін па выпуску высокаякаснай высокатэхналагічнай прадукцыі, выбудоўваючы прадуманую стратэгію сацыяльна-эканамічнага развіцця”, — адзначылі ў Дзяржкамітэце па стандартызацыі. Прыярытэтнымі накірункамі вызначаны рост экспарта тавараў і паслуг, радыкальная мадэрнізацыя ўсіх галін, імпартазамяшчэнне, стымуляванне ініцыятывы, энэргазберажэння.

І сапраўды, звярнуўшы ўвагу на шматлікія асноўныя праграмы развіцця, па якіх “працуе” краіна, складваецца ўражанне, што ў Беларусі пытанням павышэння якасці надаецца належная ўвага. Гэта Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011-2015 гады, Праграма дзейнасці урада Рэспублікі Беларусь на 2011-2015 гады, Дзяржаўная праграма інавацыйнага развіцця Беларусі на 2011-2015 гады, Нацыянальная праграма развіцця экспарта Рэспублікі Беларусь.

Падобныя праграмы дзейнічалі ў нашай краіне і ў 2006-2010 гадах...




У той жа дзень, 8 лістапада 2012 года, А.Лукашэнка падверг рэзкай крытыцы дзейнасць галіны прамысловасці па вытворчасці скур і абутку.

Як адзначыў у час паседжання А.Лукашэнка, “з 2000 па 2010 гады вываз неапрацаваных скур умудрыліcь нарасціць ажно ў тры разы. Сабе пакідалі бруд і адыходы ад першаснай апрацоўкі... Атрымліваецца, што для вытворчасці скураных тавараў высокаякасную скуру завозяць з-за межаў, іншымі словамі, з-за мяжы прывозяць экспартаваную з Беларусі скуру з больш высокай якасцю апрацоўкі”.

У сабекошце прадукцыі, вырабленай на беларускіх абутковых прадпрыемствах, імпарт складае каля 70%.

За апошнія 10 год вытворчасць абутку на беларускіх прадпрыемствах знізілася з 16 млн. да 13 млн. пар у год.

Імпарт жа абутку за гэты перыяд вырас больш чым у 10 раз і складае зараз каля 10 млн. пар абутку ў год.

Прыведзеныя лічбы яскрава сведчаць, што ў бліжэйшыя гады дадзеная галіна вытворчасці ў нашай краіне можа пацярпець крах. Бо негатыўныя з’явы яшчэ ўзмацняюцца інтэграцыяй Беларусі ў Мытны саюз, Адзіную эканамічную прастору, уступленнем Расіі ва Усветную гандлёвую арганізацыю, пры адсутнасці ў беларускай прамысловасці эканамічных рэформаў.

Тут жа на паседжанні А.Лукашэнка, як і 10 гадоў таму, даў “101-е кітайскае” папярэджанне і даручэнне Савету міністраў прыняць неабходныя рашэнні для выпраўлення сітуацыі.

Але як і тады, ні Савет міністраў, ні кіраўнікі прадпрыемстваў не ведаюць, што неабходна зрабіць, каб сітуацыю выправіць. Бо, па-першае, зношанасць абсталявання на шматлікіх прадпрыемствах галіны дасягнула

*(Заканчэнне на стар. 5)*

## РАСІЯ ПАДЛІЧЫЛА СТРАТЫ АД БЕЛАРУСКАГА РАСТВАРАЛЬНАГА БІЗНЭСА

Міністр энэргетыкі РФ Аляксандр Новак у інтэрвію газеце “Ведомости” заявіў, што страты расійскага бюджэта складаюць нават да 2.5 млрд $.

Паводле міністра, пасля канфлікта вакол шэрага экспарта беларускіх растваральнікаў з расійскай нафты, паміж Масквою і Менскам вядуцца “актыўныя перамовы” наконт баланса паставак нафты на наступны год.

“Зараз беларускі бок заяўляе пра 23 млн. тонаў паставак нафты на наступны год. У гэтым годзе ў нас быў баланс у 21.5 млн. То бок яны павялічылі прапанову па перапрацоўцы на сваіх нафтапераапрацоўчых заводах. Натуральна, што столькі нафты для ўнутранага спажывання не патрэбна”. - падкрэсліў расейскі міністр.

Унутраныя патрэбы Беларусі складаюць толькі 6 млн. тонаў нафты ў год і расійскі бок патрабуе вяртання нафтапрадуктаў у межах гадавых балансаў. Расійскі чыноўнік спадзяецца, што беларускія нафтрапрадукты выпрадукаваныя з лішкаў імпартаванай нафты будуць прадавацца на расейскім рынку. Беларускі бок, натуральна, не ў захапленні ад гэтай прапановы. Як і ад “просьбы” Крамля вярнуць прынамсі 1.5 млрд $ зарobленых на не зусім сумленным экспарце растваральнікаў.

***belsat.eu***

## У БЕЛАРУСІ 115 МУЛЬТЫМІЛЬЯНЭРАЎ




У Беларусі пражывае 115 мультымільянэраў, сукупнае багацьце якіх складае 13 млрд даляраў.

Такія дадзеныя дасьледаваньня World Ultra Wealth Report 2012–2013, якое правяла міжнародная кансалтынгавая кампанія Wealth-X.

У дасьледаваньні падлічана колькасьць мультымільянэраў у розных краінах, чыё багацьце перавышае 30 млн даляраў.

Паводле колькасьці мультымільянэраў Беларусь заняла 27-е месца сярод 45 краін Эўропы. Першыя месцы занялі Нямеччына (15 770 мультымільянэраў), Вялікабрытанія (10 515) і Швайцарыя (5595), перадае БелаПАН.

У параўнаньні з папярэднім рэйтынгам за 2011–2012 гады колькасьць мультымільянэраў у Беларусі павялічылася на пяць чалавек, а іх сукупнае багацьце скарацілася на 3,3%.

## ЭКАНОМІКА БЕЛАРУСІ І ЯКАСЦЬ — СЛОВЫ НЕ СУМЯШЧАЛЬНЫЯ

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

крытычнай мяжы, а для правядзенне мадэрнізацыі адсутнічаюць інвестыцыі. А, па-другое, з прадпрыемстваў галіны з-за нізкіх заробкаў і ўмоваў працы масава сыходзяць высокакласныя спецыялісты.

Праўда, сітуацыя ў галіне вытворчасці скур і абутку выглядае нічым не горш за некаторыя іншыя галіны, якія таксама патрабуюць рэфармаванняў.

Беларускае кіраўніцтва не можа пахваліцца поспехамі ў сельскай гаспадарцы, ў будаўніцтве, перапрацоўчай галіне, спорце...

Нярэдка яшчэ і непрафесійнае ўмяшальніцтва чынавенства ў вытворчыя працэсы прыводзіць да адмоўных вынікаў. Да анекдатычных выпадкаў даходзіла, напрыклад, на будаўнічых аб’ектах у г. Горкі, у час падрыхтоўкі горада да “Дажынак-2012”.

Прыкладам чынавенскай дурасці стаяць у шматлікіх гарадах краіны недабудаваныя лядовыя палацы і іншыя спартыўныя аб’екты.

А пра нядаўна здадзеную ў эксплуатацыю аўтамабільную дарогу Мінск-Магілёў, або “аўтабан”, як яе назваў А.Лукашэнка, ужо сапраўды ходзяць анекдоты.

Па распараджэнню прэм’ер-міністра Мясніковіча будаўніцтва гэтай дарогі было завершана ў скарочаныя тэрміны. На большай частцы дарогі, пасля здачы ў эксплуатацыю, былі ўведзены новыя хуткасныя рэжымы для транспарту; для легкавых аўтамабіляў — да 120 км/гадз., для грузавых — да 100 км/гадз.

Але прайшлі “Дажынкі”, і адразу ж дарожныя знакі, што дазвалялі ехаць больш хутка, амаль на ўсіх участках дарогі былі зняты, а месцамі — распачаты рамонт...

Відаць, у пагоні за выкананнем былых савецкіх прызываў, накшталт — “пяцігодку — у чатыры гады”, будаўнікі зусім забыліся пра якасць.

Ужо любы шэраговы грамадзянін краіны разумее, што выправіць эканамічную сітуацыю ў Беларусі без рэформаў немагчыма.

Але рэформаў няма.

І пакуль не зразумела, што збіраецца рабіць урад дзеля выратавання эканомікі краіны, тым больш, што нядаўна, напярэдадні чарговай зімы, знік і апошні эканамічны цуд у выглядзе “растваральнікаў”.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ***

## МЕТАЛЛИСТЫ АКТИВИЗИРОВАЛИСЬ




8 ноября в 14-00 ОГАИ на улице в д. Ланьков задержана а/м «ВАЗ», под управлением неработающего жителя д. Ильковичи 1990 г.р., который перевозил 600 кг лома черного металла без соответствующих документов. Проводится проверка, сообщает uvd.mogilev.by.

# ЛУКАШЕНКО НАЧНЕТ ЖЕСТКО БОРОТЬСЯ С ИЖДИВЕНЧЕСКИМИ НАСТРОЕНИЯМИ У НАСЕЛЕНИЯ

*Алекскандр Лукашенко*

По словам главы государства, белорусы привыкли, что о них заботится государство, и не желают шевелиться, чтобы обеспечить себе достойную жизнь. Это теперь будет положен конец, и люди будут получать только, что заработали.

Как заявил Александр Лукашенко, в Беларуси привыкли думать, что в стране высококвалифицированные специалисты и добросовестные работники, но это совсем не так.

"Давайте посмотрим, что у нас на самом деле: производительность труда на наших предприятиях заметно ниже, чем в передовых зарубежных компаниях, а материалоемкость и энергоемкость в свою очередь выше", - заявил глава государства, отметив, что дальше с этим мириться нельзя.

Президент подчеркнул, что государство сделало все для того, чтобы каждый трудоспособный гражданин имел работу и достойную зарплату. Более того, по словам Лукашенко, людям труда предоставлены беспрецедентные социальные гарантии, что породило у них иждивенческие настроение и нежелание работать.

"Очевидно, это и порождает у некоторой части населения иждивенческие настроения. Дескать, можно работать спустя рукава, сидеть, как Емеля на печи, переложив все заботы на государство. Что делать руководителю с откровенными бездельниками и пьяницами? Я отвечаю просто: наказывать рублем, а если не поможет - с такими людьми надо расставаться, как это принято, например, в Китае, где коммунистические идеи прекрасно сочетаются с жестким капиталистическим подходом к организации производства. Жестко, скажете вы. Да, жестко, но справедливо. Иначе нам не выдержать глобальной конкуренции, а наши белорусские инновации так и останутся декларациями", - подчеркнул президент. Он также добавил: "И здесь не я - экономика диктует, технологии. На Западе еще жестче", — завил глава государства.

## Информация к размышлению

По мнению абсолютного большинства экспертов, белорусы являются самой работящей, трудолюбимой и неприхотливой нацией среди славян. В общей сложности белорусы работают больше и добросовестнее других славян – это наша отличительная черта. Но почему-то мы живем хуже и россиян, и украинцев, и поляков, и чехов…

*Ежедневник*

# В САМОЛЕТЕ ЛУКАШЕНКО ЗОЛОТЫЕ ШТОРЫ И ДУШ С ДРАГОЦЕННЫМИ КАМНЯМИ

Самолет Александра Лукашенко "Боинг-767" утром 9 ноября прибыл в Гамбург для технического обслуживания авиакомпанией "Люфтганза".

Вскоре после приземления машина с бортовым номером EW-001PB была отбуксирована в ангар Lufthansa Technik, сообщает сайт журнала Der Spiegel.

В октябре рабочие "Люфтганзы" обслуживали "Боинг-737" EW-001PA, которым также пользуется Лукашенко, пишет БелаПАН.

Der Spiegel отмечает, что "Боинг-767" ранее принадлежал президенту Туркменистана Гурбангулы Бердымухамедову и куплен белорусской стороной не менее чем за 124 млн. долларов. В нем есть "широкие белые кожаные сиденья и диваны, деревянная обшивка, золотые шторы", а в душевой использованы драгоценные металлы и камни.

Lufthansa Technik отказывается от официальных комментариев на тему обслуживания самолетов Лукашенко.

# КРИМИНАЛ В БЕЛЫНИЧАХ

13 ноября в 10-05 на ул. Мичурина ОГАИ, ИМНС задержан трактор «МТЗ», под управлением неработающего жителя д. Говяды 1963 г.р., который перевозил 2500 кг лома черного металла без соответствующих документов. Трактор с грузом доставлен в РОВД для разбирательства. Проводится проверка.

*uvd.mogilev.by*

# У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ЎСЁ Ж БУДЗЕ НОВЫ СТАРШЫНЯ РАЙВЫКАНКАМА?



Апошнім часам сярод чыноўнікаў раённай “вертыкалі” зноў пашырыліся чуткі, што ўжо ў хуткім часе ў Бялыніцкім райвыканкаме з’явіцца новы старшыня. Па словах знаёмых чыноўнікаў, справа гэта ўжо практычна вырашаная, новы старшыня райвыканкама павінен прыйсці ў раён альбо напярэдадні, альбо адразу ж пасля Новага году.

Ці спраўдзіцца гэта інфармацыя, пакажа толькі час, бо чуткі аб хуткім сыходзе з пасады Аляксандра Вароніна цыркулююць у чыноўніцкім асяроддзі нашага раёна ўжо даволі даўно, “Паходня” пісала пра іх яшчэ вясной гэтага года. Аднак, на нашу думку, дыму без агню не бывае, тым больш, што да гэтага часу па-ранейшаму застаецца вакантнай пасада старшыні Бялыніцкага райсавета, якую часцей за ўсё называюць у якасці магчымага месца працаўладкавання Аляксандра Вароніна. Ды й хату ў Бялынічах Аляксандр Мікалаевіч дабудаваць ужо паспеў…

Дарэчы, наогул незразумела, навошта патрэбна пасада старшыні райсавета, калі раён на працягу дзесяці месяцаў выдатна жыве і без яго…

Калі раней у якасці асноўнага прэтэндэнта на пасаду старшыні Бялыніцкага райвыканкама часцей за ўсё называлась кандыдатура былога першага намесніка старшыні, які зараз працуе на аналагічнай пасадзе ў Шклоўскім раёне, Леаніда Засемчука, то зараз у гэтай якасці ўзгадваецца іншае прозвішча. У чынавенскім асяроддзі кажуць, што на пасаду старшыні Бялыніцкага райвыканкама можа быць прызначаны Мікалай Кадаценка, які зараз працуе старшынёй Чэрыкаўскага райвыканкама. Дарэчы, згодна інфармацыі журналістаў крычаўскай незалежнай газеты “Вольны горад”, размовы аб магчымым перасоўванні Мікалая Кадаценкі ў Бялынічы ідуць і ў Чэрыкаўскім райвыканкаме.

Калі Мікалай Кадаценка сапраўды прыйдзе ў Бялыніцкі раён, нашым мясцовым чыноўнікам я магу толькі шчыра паспачуваць, бо яны змогуць цалкам узгадаць нашага Аляксандра Мікалаевіча першага (Ільянава) і незабыўны стыль яго працы. Мікалай Міхалавіч вельмі любіць падтрымліваць знешні парадак, наогул, добраўпарадкаванне тэрыторыі – гэта яго “каронка”, якой вызначаецца Чэрыкаўскі раён. Праўда, эканамічныя дасягненні раёна зусім нязначныя, калі не сказаць больш, аднак у нас жа любяць у першую чаргу “паказуху”…

Яшчэ Мікалай Кадаценка вельмі любіць выкарыстоўваць вялікую рускую мову, асабліва яе нелітаратурную частку. Як кажуць журналісты “Вольнага горада”, сакавітыя словы з яго вуснаў гучаць не толькі ў прыватных размовах, але і на нарадах, і на афіцыйных паседжаннях Чэрыкаўскага райвыканкама, як на адрас мужчын, так і ў адносінах прадстаўніц прыгожай паловы чалавецтва. Таксама, як і Аляксандр Мікалаевіч першы, Мікалай Міхайлавіч рэгулярна карыстаецца дапамогай супрацоўнікаў міліцыі і пракуратуры, калі трэба нейкім чынам пакараць падначаленых кіраўнікоў. Па інфармацыі газеты “Вольны горад”, літаральна некалькі тыдняў таму Мікалай Міхайлавіч спрабаваў, з дапамогай начальніка міліцыі і пракурора раёна, выдаліць з паседжання Чэрыкаўскага райвыканкама сваю намесніцу па ідэалогіі Анжэлу Новікаву, папярэдне паслаўшы яе “на хутар матылькоў лавіць”. Журналісты “Вольнага горада” кажуць, што ў супрацоўнікаў праваахоўных органаў хапіла розуму не выканаць загад Мікалая Кадаценкі, пасля гэтага пакрыўджаны старшыня сказаў “тады я пайду сам”, сабраўся і сышоў з паседжання райвыканкама.

Праз некалькі дзён пасля паседжання Анжэла Новікава ўзяла адпачынак і з’ехала адпачываць у санаторый, ну а ў калідорах Чэрыкаўскага райвыканкама зараз чакаюць яе хуткага звальнення з пасады, бо Мікалай Міхайлавіч непаслушэнства не даруе… Наогул, колькі кіруючых кадраў змянілась у Чэрыкаўскім раёне за гады кіравання Мікалая Кадаценкі, нават узгадаць цяжка, “перапрахівае” ён іх пастаянна…

Так што можна толькі паспачуваць бялыніцкім чыноўнікам (як і камунальнікам, і прадпрымальнікам, дарэчы), калі інфармацыя аб прызначэнні Мікалая Міхайлавіча ў Бялыніцкі раён спраўдзіцца. Хаця, магчыма, гэтыя спачуванні і не патрэбны, бо шмат хто з бялыніцкай наменклатуры з журбой успамінаў часы Аляксандра Мікалаевіча першага і зараз гэтыя людзі змогуць узгадаць свае светлыя ўспаміны на ўласнай скуры. Ну не падабаецца ім інтэлігентны Аляксандр Мікалаевіч другі (Варонін), што тут зробіш…

Так што, па чутках, Новы 2013 год у Бялыніцкім раёне сапраўды чакаецца вясёлым. Да таго ж, у хуткім часе павінна пачацца абяцанае скарачэнне кіруючых кадраў, якіх у нашым раёне развялось, як мышэй гэтай восенню. Праўда, асабіста я думаю, што усё гэтае скарачэнне абернецца чарговай прафанацыяй, у рэшце-рэшт колькасць наменклатурных работнікаў узрасце яшчэ больш. Аднак чыноўнікі ўсё роўна нервуюцца, тэма мяркуемага скарачэння зараз самая абмяркоўваемая ў калідорах нашага мясцовага “белага дома”. І “ноў-хаў”, каб цёплае месца не страціць, прыдумваюць яшчэ тыя. Так, днямі на паседжанні галіновага прафсаюза ў Мінску чыноўнікі з некалькіх райвыканкамаў прапаноўвалі ажыццявіць скарачэнне за кошт “аптымізацыі колькасці сельсаветаў”, бо ў райвыканкамах яны і так парваліcь ад непасільнай працы, скарачаць няма каго…

Карацей, цырк, ды і толькі…

***Сяргей Семяновіч***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АЛЕКСАНДР ГРИГОРЬЕВИЧ ВНОВЬ ПРИБЛИЗИЛ НАШЕГО БЫВШЕГО ДЕПУТАТА



***Владимир Коноплёв***

На заседании исполкома Национального олимпийского комитета глава государства и НОК Александр Лукашенко предложил на должности вице-президентов НОК председателя Белорусской федерации гандбола Владимира Коноплева и директора "Минск-Арены" Николая Ананьева. Излишне говорить, что обе кандидатуры были одобрены.

Как известно, Владимир Коноплев долгое время был одним из самых близких друзей Александра Лукашенко. В 1991-1994 годах он являлся помощником народного депутата, а в 1994-1996 — главным помощником президента.

С 1996 года Владимир Николаевич уже сам стал парламентарием от нашего Шкловского избирательного округа, даже почти три года года работал председателем Палаты представителей. Но в 2007 году попал в опалу и был вынужден заявить об отставке с поста спикера по состоянию здоровья. По слухам, причиной для отставки послужило то, что некоторые российские политики вели беседы с Владимиром Коноплёвым о возможности его выдвижения кандидатом в президенты Республики Беларусь, а такой мысли Александр Григорорьевич не прощает даже близким друзьям…

Как видим, Александр Лукашенко спустя семь лет вновь приблизил к себе бывшего друга, дав ему ответственную должность в НОКе. Не удивлюсь, если в скором времени Владимир Николаевич выплывет ещё и на какой-либо должности во властной "вертикали". Скамейка запасных у белоруских властей очень короткая, так что постоянно доводится тасовать кадры, перемещая их с места на место…

***Богдан Иванов***

# ВЕДРО ДЛЯ АРТИСТОК

Могилевская вокальная группа «Беатрис» (Алена Вербицкая, Анна Четвертушкина, Ольга Григорьева) уже не раз радовала своих поклонников выступлением на различных конкурсах, в том числе и международных. Однако популярность, которая свалилась (другого слова и не подберешь) на девушек после их феерического выступления на украинском телешоу X-Factor, превзошла все мыслимые и немыслимые масштабы.

Солистка группы «БеатриС» Ольга Григорьева в интервью «Салідарнасці» рассказала, в каком состоянии находятся учреждения культуры




в Могилёвской области:

«…Мы работаем в Могилевской филармонии, каждый месяц даем по четыре концерта за городом. В зале народ сидит в шапках, в шубах. Клубы не отапливаются. Иногда бывает так: стоит новое здание с евроремонтом в деревне, а туалета нет. Могут ведерко принести с надписью Ж».

# ЛЕБЕДЬКО ЗНАЕТ, ГДЕ НАХОДИТСЯ САМОЕ БОЛЬШОЕ "КОРЫТО"

Лидер Объединенной гражданской партии отреагировал на обвинения Александра Лукашенко и Зенона в том, что белорусская оппозиция "кормится из корыта" поступающими с Запада грантами.

"Самое большое корыто стоит в Красном доме по адресу К.Маркса 38. И в нем не мифические западные миллионы, а совершенно конкретные деньги белорусского налогоплательщика, которыми бесконтрольно распоряжается небольшая группка людей", – написал Лебедько в своем блоге на "Белорусском партизане".

Как отмечает политик, белорусским властям "предпочтительнее говорить о чужих финансах, нежели обсуждать целесообразность строительства очередной президентской резиденции по улице Орловской или приобретение нового лайнера с золоченым душем".

"Сотни и сотни миллионов долларов ежегодно перетекают из бюджета по сейфам, карманам лукашенковской вертикали, - пишет лидер ОГП. - Коррупция, мошенничество, взяточничество в системе Лукашенко чувствуют себя как овощ на гидропонике. 40% экономики в "серой" зоне. В 2013 году через руки чиновников белорусского правителя пройдет около 30 миллиардов долларов. И в каждом кабинете от этого пирога будут отщипывать по кусочку. Так будет, потому что нет контроля, ни парламентского, ни общественного".

***"Белорусский партизан"***

## Анекдот дня

– Слушай, вот как лучше всего закончить спор с женщиной?

– Притвориться мертвым.

* * *

- Не жалеешь, что замуж вышла?

- Жалко его конечно...

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 14.11. 2012 г. у 12-00.